Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 13 Чацьвер, 14 Жніўня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 20 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

## Крах ідэі колёнізацыі.

Няма ужо здаецца ніводнае палітычнае партыі у Польшчы, якая-б ня была переконана самым бягучым жыцьцём у тым, што ідэя колёнізацыі (асадніцтва) беларускіх земляу каранными палякамі аказалася, як і трэ' было спадзявацца дауно, абсолютна мёртваю.

Колёнізацыя, не апраудаушы пакладаных на яе надзеяу, толькі абурыла беларускае земляробнае жыхарства, творачы яшчэ глыбейшаю тую нацыянальную прорву, якая паміж тутэйшым насяленьнем і без таго была аж надта вялікаю.

Ідэя колёнізацыі належыць польскай правіцы, якая, спрытна іграючы на патрыятычных струнах польскіх левых партыяу, праводзіла гэту ідэю у жыцьцё, саусім не заглядаючы уперад, ня думаючы аб пасьледзтвах.

Мэта колёнізацыі была толькі палітычнаю, ніякімі эканамічнымі ці іншымі якімі варункамі дзяржаунага жыцьця Польшчы яна не выклікалася.

Заданьне, стауленае перад сабою аутарамі колёнізацыі, будзе ясьнейшым, калі глянуць простым вокам на соцыяльна-нацыянальную структуру тутэйшага насяленьня, прасьцей кажучы, калі прыглядзецца да таго, якія слаі нашага краёвага насяленьня складаюць польскую нацыянальнасьць, а якія беларускую.

Прапарцыянальнай перавазе беларускага насяленьня у Заходняй Беларусі дасюль яшчэ пярэчаць толькі самыя сьляпыя і невылячальныя польскія шовіністы, а ні правіца, а ні лявіца польскага палітычнага сьвету наагул гэтаму цяпер ужо не пярэчыць.

Бяручы шчыра пытаньне аб тым, хто зьяуляецца беларусамі, а хто палякамі у нашым краі, трэба прызнаць, што з масау народных, у шырокім сэнсе гэтага слова, да польскай нацыянальнасьці, навет з вялікай нацяжкаю аднясьці няма каго, апрача часьці каталіцкага насяленьня, якое па прычынах гістарычнага характару, вырабіла у сабе фальшывае, на народнай цемры абапёртае пераканаеньне, што яно адносіцца да польскай нацыянальнасьці.

Але гэткі *псыхолёгічны* тып тутэйшага «паляка»-селяніна ні лікам сваім, ні гэтым самым нездаровым нацыянальным пераканаеньнем ані не памагау нацыяналістычным польскім кругом даказаць усім і кожнаму, што у нас ёсьць ну, хаця-бы, палова польскага насяленьня.

Каталік-беларус, які супольную з польскім народам мае толькі рэлігію, застанецца заусёды пры сваіх бытавых і языковых азнаках, пры сваіх прадзедаускіх звычаях.

Ніякія офіцыяльныя статыстыкі не маглі у нас штучна стварыць этнографічна-польскую зямлю, дзе палякі складалі-б шчыльна жывучую сельскую масу насяленьня.

Ніякай Амэрыкі тут адкрыць нельга і немагчыма.

Польскае насяленьне краю спатыкаем сярод гандляроу, крамнікау, рабочых і інтэлігэнцыі у местах ды у большасьці буйных земляуласьнікау і дробнай засьцянковай шляхты у сельскіх мясцовасьцях.

Эканамічна польскі элемэнт у краі зьяуляецца, як гэта проста відаць, дужэйшым, бо гэткую, напрыклад, рэдкасьць, як беларус-абшарнік, тутака цяпер знайсьці трудна.

Калі ёсьць прадстаунікі гэтага соцыяльнага слою, якія ня стыдаюцца, ці не баяцца называць сябе беларусамі па нацыянальнасьці, дык гэта такая рэдкасьць, што істнуе яна, кажучы памужыцку, як быцам толькі *на насеньне.*

Беларус-гандляр — рэдкасьць ня меншая. Контынгэнт беларускай інтэлігэнцыі слабейшы таксама, чымся польскі.

Беларусы у свэёй масе—земляробы ды маленечкая жменка рабочых.

А дзеля таго, што край наш тыпічна аграрны (земляробскі), дык ясна саусім, дзе знаходзіцца нацыянальная перавага.

Нацыяналістычная да хваравітасьці польская правіца ставіць сабе, па ідэолёгіі пана Станіслава Грабскага ідэал *нацыянальнай* Польскай Дзяржавы, гэта значыць такі парадак рэчау у дзяржаве, дзе кожны грамадзянін чууся-б сябром аднае-адзінае польскае вялікае дружыны бяз ніякіх там нацыянальных большасьцяу, ці нацыянальных меншасьцяу — нешта падобнае саусім да таго, што на расейскай мове выражалася калісь проста: «славянскія ручьи сольются в русском морѣ».

І ня маючы здаволеньня з таго, што у Беларусі (асабліва тут у Заходняй) істнуе дауно эканамічная польская перавага, нацыяналісты у духу вышэйназванага п. Грабскага пачалі імкнуць да утопічнае мэты— асыміляцыі беларускага насяленьня на пажаданы для іх лад, лічачы найлепшым спосабам дасягненьня гэтае мэты колёнізацыю беларускіх абшарау этнографічна польскімі элемэнтамі, якія-б стварылі сярод беларускіх народных гушчаў расаднікі польскае культуры.

Але-ж выпушчана з вачэй панамі колёнізатарамі тое, што нельга трактаваць беларусау, як людзей культурна роуных з якімі-нібудзь зуавамі, бушмэнамі або готэнтотамі.

Калі культурная розьніца й переважае у польскі бок, дык не настолькі, каб можна было беларусау колёнізаваць з... цывілізацыйнымі мэтамі, як гэта любяць рабіць заходня-эуропэйскія палітыкі, вядучы колёнізацыйную палітыку у сваіх заморскіх землях сярод паудзікіх, а навет і дзікіх народау.

Ды йзноу-жа не настолькі магутнымі могуць аказацца новыя расаднікі польскае культуры у сёлах, каб у сучасны век самаазначэньня народау ціха і проста з'асыміляваць вельмі няздольны на гэта беларускі народ у Польскай Рэспубліцы.

Ніякаю самаю моцнаю перасадкаю палякоу у Беларусь, ні навет поунаю руйнацыяй тутэйшага польскага і, часамі, няпольскага абшарніцтва, ніякай найшырэйшай парцэляцыяй у імя колёнізацыі нельга адабраць у беларускага народу яго нацыянальных азнакаў.

Аднак, ня гледзячы на усё гэта, польская правіца, па усёй лініі падтрыманая сваею роднаю лявіцай, колёнізацыю у нас пачала, павяла, але бяз ніякага канца, бяз ніякага рэзультату.

Нацыянальны і соцыяльны, дзеня-дзе і рэлігійны, антагонізм пачау расьці у нас, як на дражджох. Нэрвуецца навет сам распарцэлёваны абшарнік, зямля якога аддаецца прыбышом, саусім натуральна абураецца безьзямельнік ці малазямельнік беларус, ніякага поступу асыміляцыі нельга зауважыць навет і праз мікраскоп, і уся колёнізатарская ідэя няухільна коціцца да свайго натуральнага рэзультату, якім можа быць толькі паунейшы яе крах.

---

## Новы курс нацыянальнае палітыкі у Югаславіі.

Каралеўства Югаславія, створанае пасьля сусьветнае вайны 1914 — 1918 г.г., з Сэрбіі, (істнаваўшай, як дзяржава, і да вайны) і быўшых аўстра-вэнгерскіх провінцыяў, заселеных славянамі, складаецца, як і кожная амаль дзяржава, не з аднае якое-нібудзь нацыянальнасьці, а ў дзяржаву гэту, якая так і завецца „Србія, Хорвата і Словенаца“ (скарочана С. Х. С.) уваходзяць розныя народы, з якіх уласна Сэрбы, за імі Харваты і Славенцы, як нейкі трыадзіны сымболь надаюць назоў гэтаму найбольшаму з балканска-славянскіх гаспадарстваў.

Няма ў Югаславіі настолькі вострых нацыянальных разьбежнасьцяў і калатні, як, напрыклад, у Польскай Рэспубліцы, але пэўныя, досіць паважныя непаразуменьні ўсё-ж такі істнуюць і там.

Як доказ істнаваньня нацыянальных непаразуменьняў у Югаславіі можа служыць нядаўна толькі скончаны ўрадовы крызыс, істнаваўшы ў скрытай форме ўжо шмат месяцаў, калі ня цэлыя гады, лічачы ад Вэрсальскага міру.

Урадовы крызыс завяршыўся тым, што замест кабінэту вядомага ў да ваеннай Сэрбіі дзяржаўнага мужа Пашыча, на чале ўраду стаў лідэр дэмакратаў Давідовіч.

Быўшы югаславянскі прэм'ер-міністар Пашыч зьяўляецца павадыром цэнтралістычных сэрбскіх радыкалаў. Ен мог стаяць дасюль на чале югаславянскага ўраду толькі таму, што харвацкая сялянская партыя Радзіча, якая маець у Скупшчыне (парлямэнце) аж 54 сяброў на агульны лік паслоў 313, да сакавіка месяца сёлетняга году байкатавала парлямэнт (не зьяўлялася саўсім на паседжаньні), протэстуючы гэткім чынам проці цэнтралістычнае конституцыі новага югаславянскага каралеўства.

З гэтае прычыны Пашыч, маючы найбольшую групу ў Скупшчыне — 109 сяброў радыкальнае партыі,— але ня маючую ўсё-ж такі пераважнае большасьці, мог, пры падтрыманьні некаторых нязначных лікам групаў Скупшчыны, кіраваць гаспадарствам, набіраючы хоць і нязначную парлямэнцкую большасьць.

Аднак-жа, з сакавіка месяца гэтага году падобнае палажэньне зьмянілася, дзеля таго, што харвацкая сялянская партыя адмовілася ад тактыкі байкоту Скупшчыны ды пачала па чарзе зьяўляцца групамі ў парлямэнце. Гэткім чынам Пашыч аўтаматычна апынуўся ў меншасьці і грунтоўнае пытаньне дзяржаўнага жыцьця ў Югаславіі, якое прадстаўляе самую сутнасьць барацьбы паміж Сэрбамі і Харватамі, пытаньне аб цэнтралізьме ці аб фэдэрацыі, зрабілася надзвычайна актуальным.

Цэнтралізм, праводжаны ўрадам Пашыча, выклікаў сярод Харватаў, у постаці сялянскай партыі Радзіча, імкненьне іх да поўнае незалежнасьці ад Югаславіі.

Пашыч, нехацеўшы пайсьці на ніякія уступкі, думаў часова ўхіліцца ад крызысу тым, што адсрочыў сэсію Скупшчыны да месяца кастрычніка, а тымчасам энэргічна дабіваўся згоды караля на роспуск парлямэнту і назначэньне новых выбараў, спадзяючыся, што выбары гэтыя дадуць іншы склад парлямэнту болей лагодны для цэнтралістычных радыкалаў. Пры гэтым тактыка лідэра харвацкае сялянскае партыі Радзіча, які спачатку паехаў у Лёндан з фантастычнаю надзеяю на падмогу Англіі проці сэрбаў, а цяпер прабывае ў Маскве, дзе дабіваецца падтрыманьня бальшавікоў ў імкненьні да незалежнасьці Харватыі і фармальна далучыў сваю партыю да маскоўскага сялянскага інтэрнацыяналу, зьяўлялася вельмі добрым для Пашыча козырам, каб даказаваць тое, што прызнаньне фэдэрацыйнага прынцыпу зьяўлялася-б адначасна капітуляцыяй перад бальшавізмам і дзяржаўнаю здрадаю.

Нейкі, кароткі вельмі, час высоўвалася камбінацыя новага ўраду, на чале якога стаяў-бы старшыня Скупшчыны Іовановіч, таксама сябар радыкальнае партыі Пашыча, які ўсё-ж такі ў пытаньні аб аўтаноміі займае менш непрымірымую пазыцыю, чымся апошні. Але-ж Іовановіч ня чуў для сябе патрэбнага падтрыманьня і праз гэта адмовіўся ад сфармаваньня новага кабінэту. Тады кароль Аляксандар, хочучы спрабаваць усіх канстытуцыйных магчымасьцяў, даручыў стварэньне ўраду лідэру дэмакратаў Давідовічу, якому ўдалося выпаўніць гэту місію.

Перад новым урадам паўстае задача — прымірыцца з дамаганьнямі аўтанамістых. Урад Давідовіча зложаны з дэмакратаў, славенскіх клерыкалаў і магомэтан, у ім мае месца і невялікая група незалежных радыкалаў, якая расходзіцца з большасьцяй радыкальнае партыі ў пытаньні аб цэнтралізьме. Давідовіч разьлічаў і на тое, што яго будзе падтрымліваць таксама і большасьць групы Радзіча, што не згаджаецца з бальшавіцкімі ды іншымі паглядамі свайго лідэра й гатова памірыцца на пэўных гарантыях самастойнасьці Харватыі ў складзе Югаславянскага каралеўства.

У гэткім выпадку Давідовіч, апіраючыся на бязумоўную большасьць (каля 180 сяброў Скупшчыны) зможа правясьці тыя зьмены ў цэнтралістычнай констытуцыі „Відова дня“ (прынятай 28 чэрвеня 1921 году ў угодкі бітвы на Косавым полі),—якія дадуць магчымасьць пагадзіць інтарэсы ўсяе Югаславіі з аўтанамічнымі кірункамі насяленьня яе паасобных частак.

7-га гэтага жніўня адбылося надзвычайнае паседжаньне Скупшчыны, скліканае новым урадам, выступленьне якога перад парлямэнтам было горача вітана большасьцю паслоў, у ліку якіх ёсьць і прадстаўнікі харвацкае сялянскае партыі Радзіча. А Пашыч перайшоў да опозыцыі.

Прэм'ер-міністар Давідовіч па пытаньню ўнутранае палітыкі заявіў перад парлямэнтам, што яго ўрад, стоячы нязломна на пазыцыі парлямэнтарызму, лічыць сваею прынцыпіяльнаю задачаю аканчальна сконсолідаваць унутраныя адносіны ў дзяржаве, а таксама ажывіць і ўзмацніць братэрскія пачуцьці, якія злучаюць Сэрбаў, Харватаў і Славенцаў, і што, маючы гэта на ўвазе, ўрад прыме ўсе меры дзеля стварэньня ў магчыме найхутчэйшым часе атмосфэры ўзаемнае толеранцыі і зразуменьня, якое-б дало магчымасьць усім нацыянальным элемэнтам карыснага супрацоўніцтва над разрашэньнем вялікіх пытаньняў унутранае палітыкі. Урад Давідовіча дакляруе *старацца запэўніць парадак і бесстароннасьць у дзяржаўнай адміністрацыі, дамагаючыся адначасна точнага прыстасоўваньня законаў.*

Гэткім чынам, братнія, хоць і далёкія ад нас, славянскія народы, ў Югаславіі ад шкоднае калатні пераходзяць на шлях мірнага разрашэньня справаў іхняга сужыцьця пад аднэю дзяржаўнаю страхою і ў гэтым апошнім кірунку, высунутым на парадак дня натуральным жыцьцёвым ходам, пачнецца новы курс урадовае палітыкі ў Югаславіі датычна нацыянальнага пытаньня.

Можна толькі пажадаць удачы ім разам з надзеяю, што гэта паслужыць добрым прыкладам як для ўраду Польскае Рэспублікі з аднаго боку, так і нацыянальнасьцяў яе—з другога.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы**

— 10-га гэтага жніўня у Любліне маршалак Я. Пілсудскі прачытаў лекцыю на тэму „Дзесяцьгодзьдзе легіёнскага дзеяньня". Заля была перапоўнена публікай, зрабіўшай лектару гарачую овацыю. З Любліна Пілсудскі скіраваўся ў Радом на ўрачыстасьць даручэньня яму дыплёму ганаровага грамадзяніна гэтага места.

— Забастовачнае палажэньне ў Верхняй Сілезіі не паляпшаецца. Работніцкія рады стаяць за далейшую забастоўку, хаця ўрад запэўніў, што ня згодзіцца на павялічэньне рабочага дня. Надзея па дасягченьне паразуменьня ня страчана.

— 11-га жніўня паміж міністэрствамі ваенным і ўнутраных справаў пачаліся перагаворы аб мілітарызацыі акраіннае паліцыі. Аднак, дзеля таго, што мілітарызацыя вымагае утварэньня спэцыяльнага бюд'жэту на яе, аканчаньне перагавораў адбудзецца пасьля звароту ў Варшаву прэм'ер-міністра Грабскага з Усходняй Галіцыі, якога спадзяюцца ў палове гэтага тыдня.

— „Gazeta Lwowska" піша, што украінскія палескія дзеячы рыхтуюцца, пасьля жніва, склікаць вялікі сялянскі зьезд у Берасьці, Кобрыні або ў Пінску. Магчыма навет, што зьездаў гэтых будзе некалькі. Украінскія паслы й сэнатары разьехаліся па провінцыі дзеля агітацыі.

— Польскія газэты паведамляюць аб павялічэньні пэнсіі пагранічнай паліцыі на 75%.

**За граніцай.**

— Прыехаўшага ў **Парыж** 10-га жніўня, францускага прэм'ера Эрыо спаткалі на вакзале сябры ўраду, а таксама натаўп публікі, які, вітаючы прэм'ера, галасіў: „хай жыве мір!".

— Паводлуг афіцыяльных вестак з **Масквы**, англа-савецкі трактат будзе збаданы Радаю Народных Камісараў, а таксама Выканаўчым Камітэтам Радавае Фэдэрацыі. Тэкст дагавору мае быць апублікованы зараз-жа па адтрыманьні яго ў Маскве.

— Савецкая гандлёвая місія ў **Бэрліне** аднавіла ўсю сваю дзейнасьць, што трэба лічыць за ліквідацыю нямецка-савецкага конфлікту.

— 10 жніўня па ўсёй **Нямеччыне** пачалася ўрачыстасьць сьвяткаваньня Вэймарскае Констытуцыі. У Бэрліне арганізованы маніфэстацыі з удзелам некалькі тысяч народу. На ўрачыстасьць у Манастыры прыбыў прэзыдэнт Эбэрт у таварыстве цэлага раду міністраў Рэспублікі і Прусіі.

— У **Лёндане** 9-га жніўня падпісаны нямецкім канцлерам Марксам і дэлегатамі саюзьнікаў пратакол камісіі адшкадаваньняў.

— Ангельскія газэты паведамляюць, што ўрад **Англіі** саўсім не зацікаўлены ў неофіцыяльных перагаворах паміж Францыяй, Бэльгіяй і Нямеччынай аб адмене окупацыі Руры.

— Ангельская прэса нездаволена падпісаньнем трактату паміж **Англіяй** і **С. С. Р. Р.**

— У кітайскай сталіцы **Пэкіне** пачаліся перагаворы паміж Японіяй і С. С. Р. Р. аб аднаўленьні паміж імі дыплёматычных зносін.

— Паводлуг вестак з **Гамбургу** (Нямеччына), міжнародны саюз транспортных рабочых прыняў францускую прапазыцыю аб прапагандзе ідэі Злучаных Штатаў Эўропы.

— **Літоўскі** камісар у Клайпэдзе Будрыс выдаў распараджэньне, паводлуг якога асобы, абвінавачаныя ў дзяржаўнай здрадзе, выдачы ваенных

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 12 „Грам. Голасу“).*

Заварушыўся Пётра на печы ад вокліку Дзядзёнка.

— Га, чаго?

— Пара — сказаў Дзядзёнак і палажыў смаляк на вугалькі. Загарэўся смаляк, асьвяціў хату.

Зьлез з печы Пётра.

Хутка апрануўся. — Ну? — пытаючы глянуў на Дзядзёнка. Той на яго.

— Едзем! — скамандаваў Дзядзёнак.

— Куды? — задаў пытаньне Пётра.

— Да станавога па вараных, — адказаў Дзядзёнак.

— Гайда! — весела падмаргнуў Пётра.

Выйшлі з хаты. Сярдзіта сустрэла іх непагода. Сьцебануў дождж ім у вочы...

Праз хвілю два цёмныя коньнікі, як нейкія страшэнныя цені, нясьліся праз лес...

— Добра, дзедка, добра! — шапоча Дзядзёнак. — Споўню завет!

Нясуцца па небе цёмныя хмары. Сярдзіта дождж грухаціць па лістох і сьцёблах дубоў...

Плача непагода...

## III.

## ГАНЧАР.

Доўга глядзеў Ганчар на каршуна, які ганяўся за нейкай птушкай, нарэшце, ня вытрымаў, прылажыўся і выстраліў са словамі:

— Вось табе, разбойнік!

Ад неспадзеўкі каршун узьвіўся раней уверх, але мусіць яго зачапіла добра шротам, бо ён, пачаўшы рабіць выкрутасы, ўпаў на зямлю. А, збаўленая ад сьмерці, птушка піснула і паляцела хутчэй да лесу.

— Ляці, — ласкава сказаў ёй усьлед Ганчар закладаючы стрэльбу за плечы.

— Добры дзянёк будзе, — пачаў Ганчар. — Вось люблю гэтакія дні, калі на небе ніводнага воблачка ня ўгледзіш, а бачыш толькі адно неба, шырокае як мора...

Я паглядзеў на яго. Той зараз зірнуў на мяне і, ўсьмяхнуўшыся, сказаў:

— Я ведаю, чаго вы зірнулі на мяне, бо ў вас зьявілася пытаньне, ці бачыў я калі мора? Гэта праўду вы падумалі — я мора ня бачыў... казаў ён, цяжка уздыхнуўшы.

— Ну, але мары аб ім у мяне бываюць... Гэтак, вось, іншы раз, глядзіш на траву на нашым вялікім балоце альбо на сітняг, дык мяркуеш, ці ня так сама ходзяць па ім хвалі, толькі ведама вялікія... Па траве альбо сітнягу таксама ходзяць хвалі, калі вее ветрык. Ведаеце што, — казаў ён далей, — я нічога ў жыцьці не кахаю так моцна, шчыра, як кахаю лес... Гляньце на яго ўдзень, увечары, раніцай, уночы, ва ўсякі час ён мае свае харство, будзь гэта ў добры дзень, ці ў буру. Заусёды лес цягне мяне да сябе. Здалёку, вось, чуеш як шуміць ён і, здаецца, шапоча, мане, заве... А як добра ў гарачы дзень разлегчыся дзе-кольвек на траўцы пад дубком; не агледзішся, як засьнеш пад ціхі гоман лісьцяў.

Прасьнешся, расплюшчыш вочы: наўкола стаяць сосны, елкі, дубы, бярозкі; з галін нясуцца птушак песьні і, здаецца, што ты папаў у рай, аб якім пішуць у сьвятых кніжках... А як прыемна ўчуць у лесе звон увечары! Гук плыве з званьніцы, ўваходзіць у душу, маніць да сябе, кліча зьвярнуцца да Бога. Увесь лес, здаецца, прыціхае, ні шуму лістоў, ні песьняў птушак, толькі ён, ён напаўняе лес, вячэрні гук звону...

Апошнія праменьні сонца іграюць яскрава на залатым, далёкім крыжы царквы ў сяле...

Хутка ночка настане, хутка зоркі замігаюць на небе. Будзе спаць поле, будуць спаць людзі, будзе спаць і лес пад шэпт цудоўны ночы...

Не, ніколі я ня здраджу лесу, ніколі! — горача закончыў Ганчар і мы ўвайшлі ў лес.

— Вось ён! — зьняўшы шапку сказаў Ганчар. — Я ўваходжу ў яго як-бы ў сьвятыню Бога. Ці чуеце, як шапоча ён? Аб чым?

— Чую! — ціха адказаў я і таксама зьняў шапку.

Лес шумеў...

## IV.

## БЕЛАШАПКА.

У поўдзень я з Ганчаром зайшлі да нейкага хутара ў лесе. Уся хатка гаспадара была абсаджана яблынкамі, грушамі, вішнямі, сьлівамі і іншымі фруктовымі дрэвамі.

— Хто тутака жыве? — запытаў я.

тайнаў, нарушэньні грамадзкага спакою і ў замаху на дзяржаўны лад Клайпэдзкае тэрыторыі, падлягаюць літоўскаму ваеннаму суду.

— **Баўгарскі** міністар унутраных справаў выказаў перад загранічнымі журналістамі пажаданьне супрацоўніцтва Баўгарыі з Румыніяй у барацьбе з камуністамі.

— У **Баўгарыі** вялікі неспакой. 10-VIII каля Старой Загоры ішоў бой паміж войскам і паўстаўшымі сялянамі Гэнэральны сэкрэтар сялянскае партыі Грыцілос арыштованы і дастаўлены ў Софію. У гор. Лом забіты паліцэйскі прэзыдэнт. Урад абвясьціў увесь край на ваенным палажэньні з тае прычыны, што опозыцыйныя партыі злучыліся з камуністамі, каб зрабіць дзяржаўны пераварот.

— Маскоўская „Правда“, разважаючы над фактам пабыцьця швэдзкага флёту ў партох Эстоніі, Латвіі і Фінляндыі, бачыць у гэтым дэмонстрацыю ўсяе швэдзкае марское сілы ў паразуменьні з Фінляндыяй.

— У **Бразыліі** ўрадовае войска, усьміраючы паўстаньне, атакавала Порто-Фэліз і мясцовасьць Ішу каля Сан-Паулё. Паўстанцы пасьля трохдзеннае бітвы адступілі, пакінуўшы вялікія запасы зброі.

— У **ангельскім** парлямэнце лёрд Біркінгэйм заявіў, што няма а ніякіх шансаў на зацьвярджэньне парлямэнтам англа-савецкага дагавору.

— **Француская** рада міністраў абгаварывала, паміж іншым, справу будучага франка-нямецкага гандлёвага дагавору.

— Ангельскія газэты паведамляюць, што кароль **Гэджасу** — Гусэйн адмовіўся падпісаць дагавор паміж Англіяй і Гэджаскім каралеўствам.

— У мінулую суботу лёнданская конфэрэнцыя вырашыла пытаньне аб амнэстыі провінцыі Руры, якая знаходзіцца пад францускай окупацыяй. Амнэстыя не пашыраецца на праступленьні, рэзультатам якіх была сьмерць.

— Лёнданскія газэты паведамляюць, што савецкая дэлегацыя, пасьля падпісаньня дагавору з Англіяй, выяжджае ў Парыж, дзе пачнуцца савецка-францускія перагаворы. Апрача Ракоўскага й Ліцьвінава на перагаворах мае быць і савецкі пасол у Бэрліне Крэсьцінскі.

— У **Грузіі** арыштованы сябар Цэнтральнага Камітэту партыі грузінскіх меншавікоў Джугэлі, быўшы начальнік штабу нацыянальнае гвардыі, які прыбыў тайна з-за граніцы.

— **Гішпанскі** дыктатар гэнэрал Прыма-дэ-Рывэра ў цыркуляры да карпусных камандзераў пярэчыць чуткам аб тым, нібыто дырэкторыя знаходзіцца цяпер у цяжкім палажэньні і зьбіраецца адмовіцца ад улады.

— **Турэцкі** прадстаўнік у Лёндане дайшоў да паразуменьня з ангельскім урадам па мосульскаму пытаньню.

— Лідэр харвацкае сялянскае партыі Радзіч вярнуўся ў **Югаславію**. Яго затрымалі на граніцы, але, праглядзеўшы дакумэнты, адпусьцілі.

— З **Каіру** паведамляюць, што паміж ангельсмімі і эгіпэцкімі салдатамі адбылася бітва. 10 эгіп. салдатаў забіта, 9 ранена.

---

# Агляд прэсы.

## Ўзрывы.

Пад гэткім загалоўкам віленскае „Słowo“, зьмясьціла цэлы рад надта-ж цікаўных вестак аб „мірнай, творчай працы“ бальшавікоў у Сярэдняй Эўропе.

Вось яны.

„Не прагучэлі яшчэ цалкам рэхі ўзрыву складаў з амуніцыяй пад Букарэштам, як польскія ўлады бясьпекі, праўда што зусім прыпадкова, здолелі перашкодзіць новаму тэрорыстычнаму замаху ў нас у Польшчы—ў Львове. Плян узрыву быў накрэсьлены з гэткім-жа размахам, як пад Букарэштам—палова Львова была-б зруйнованай. Гэткае сыстэмнае ўзрываньне амуніцыі ці ў варшаўскай цыталэлі, ці зноў у львоўскіх амуніцыйных складах, ці ў іншых мясцох, няведамых нам, але напэўна ўжо азначаных чырвоным крыжыкам у занісных кніжках выканаўцаў, у канцы, шаг па шагу, выклікала-б стан нэрвовага беспакою, панікі, трывожных вестак і чутак—стан гэтак спрыяючы ўсялякім пачынаньням вялікшага масштабу, аж да збураньня панаючага ладу ўключна.

Спраўцаў гэных няшчасьцяў ня мог быць ніхто іншы, як наш бліжэйшы сусед, з таго боку ўсходняе граніцы. Адылі арганізацыя працавала гэтак спраўна, гэтак патрапіла замясьці хвастом сьляды, што найбольш энэргічнае сьледзтва ўладаў (а хіба-ж мусілі быць энэргічнымі, бо была пагроза падставам дзяржавы) пазытыўнага выніку не далі. Былі улікі, былі западозраньні, можа злавілі беспасрэдных спраўцаў замаху, пешак у даным выпадку, ды не дайшоў ніхто да галоўнае кватэры ўсяго прадпрыемства.

Аб істнаваньні гэткае кватэры не сумляваліся. Сяньня надыходзяць весткі, што ўжо напалі на сьлед усяе арганізацыі. Даносяць іменна з Прагі чэскай, што арыштоўваючы колькі бальшавіцкіх агентаў, тамашнія ўлады натрапілі на нязвычайна багаты матар'ял, з якога вырысоўваецца цэлая ваенна шпігоўская арганізацыя, маючая сваю галоўную сялібу ў Чэхіі. Тамака ў сталіцы Чэха - Славакіі, бальшавіцкія агенты, пад агульным кіраўніцтвам Масквы, зьбіралі і сэгрэгавалі ўсялякія даныя, датычачыя вайскавых сілаў Польшчы, Румыніі і ўсяе Малое Антанты. Яны мелі падрабязныя дырэктывы адносна таго, якія досьледы належыць правесьці на эвэнтуальным абшары ваенных дзеяў, акрэсьленым лініяй Вісла—Сан—Прут.

Другая іхняя задача—гэта падрабязнае азнаямленьне з чэскімі фабрыкамі, прадукуючымі амуніцыю, а перадусім з фабрыкамі Шкода (Škoda).

Бальшавіцкія агенты дэтальна аднатоўвалі заказы, даваныя Чэха-Славакіі праз Румынію і Югаславію і заўсёды ведалі калі і куды амуніцыя высылаецца. Што кіраўніцтва ўзрывамі належала да гэнае арганізацыі сьцьвярджае факт, што цэнтралі яе ведалі аб адходзе да Румыніі апошняга транспорту ваеннае амуніцыі і, ласьне, пасьля прыбыцьця на месца наступіў ўзрыў Далейшае сьледзтва выказвае што быў уплянованы рад замахаў у Югаславіі. У рукі сьледчых уладаў трапілі непамерна цэнныя дакумэнты, ў тым ліку цыркуляр *Реввоенсовета*, сьцьвярджаючыя бяссумліўна характар дзейнасьці арганізацыі.

Апрача таго, хоць пракуратура вядзе сьледзтва ў поўнай тайне, ўдалося сьцьвярдзіць, што шматлікія „спэцы“ з гандлёвага прадстаўніцтва С. С. Р. Р. таксама вельмі павяжна замешаны ў шпігоўскай акцыі...“.

---

# Дзяржаўны лад былшае Расеі.

## З чаго складаецца Саюз С. Р. Р.

С. С. Р. Р. або Саюз Соцыялістычных Радавых Рэспублік намінальна зьяўляецца фэдэрацыяй чатырох нібыто роўнапраўных даяржаваў: Маскоўскае Фэдэрацыі (Р. С. Ф. С. Р.), Украіны, Беларусі і Закаўкаскае Фэдэрацыі. А сапраўды гэта—дзяржава найболей цэнтралістычная, бо ўся ўлада знаходзіцца ў цяперашніх уладароў Крэмля ў Маскве. Расейская (Маскоўская) Фэдэрацыя мае ў сваім складзе апрача быўшых велікарускіх ды сыбірскіх губэрняў яшчэ 23 аўтаномныя рэспублікі і акругі, 97% тэрыторыі ўсяго Саюзу, маючы аднакжа ўсяго толькі 75% усяго насяленьня С. С. Р. Р., дзеля таго, што гушчыня насяленьня ў Маскоўскай Фэдэрацыі слабейшая, як на акраінах Саюзу; асабліва слабою гэтая гушчыня зьяўляецца ў Сыбіры.

Фактычнае значэньне рэспублік, якія ўваходзяць у Фэдэрацыйны Саюз, вельмі няроўнае. З гэтых рэспублік Беларусь хіба што найслабейшая. Раней яна складалася толькі з шасьцёх паветаў быўшае Менскае губэрні і толькі ў пачатку гэтага году пашырылася на ўсход, абняўшы 22 паветы разам.

Незалежнасьць Радавае Беларусі абвешчана бальшавікамі маніфэстам „Часовага Рабоча-Сялянскага Ураду“ на чале з вядомым беларускім пісьменьнікам З. Жылуновічам 1-га студ-

---

— Хто жыве? — перапытаў мяне Ганчар, — а вось угледзіце самі ..

Праўда, праз хвілю я ўгледзіў чалавечка маленькага росту, ў белых нагавіцах і сьвітцы. На галаве была саламяная шапка. Загарны твар, рэдкая бародка і вусы рабілі яго трохі сьмешным.

— А, Ганчар, здароў, здароў! — замахаў шапкай гаспадар хутара, угледзеўшы нас.

— Заходзьце, заходзьце! — крычаў ён, падбягаючы да нас.

Мы прывіталіся. Гэта быў той, усім вядомы, Белашапка, пра якога хадзілі погаласкі ў вокрузе, як пра чалавека вучонага і добра знаючага гаспадарку, асабліва садаводзтва.

— Ось тутака, пад яблынкай добра будзе... Сядайце, калі ласка, — сказаў ён, паказаўшы на лаўкі і столік. — Сядайце, а я хутка прынясу мёду і малака ... — крыкнуў ён і пабег у хату.

— Вось гэты чалавек, — казаў Ганчар,— хоча зрабіць на ўсёй зямлі фруктовы сад, — з усьмешкай закончыў ён.

— Як так? — зьдзівіўся я.

— Вось запытайце, вось ён сам,— сьціснуўшы плячыма сказаў Ганчар.

— Ну, вось мёд, малако, сыр, хлеб, лыжкі, шклянкі! — казаў Белашапка, напаўняючы стол частункамі.

— Дзякую, дзякую, — казаў я, — Добры ў вас садок, — пахваліў я, азіраючыся на сад.

— А добры, добры! — ажывіўся Белашапка на мае словы. — Гэта што! — пачаў ён размову, — вось каб мне ды балей зямліцы, гэтак з дзесяцін 30, дык вось паглядзелі-б, які сад я разьвёў-бы! Былі-б у мяне ўсялякіх гатункаў і яблычкі, і грушкі, сьліўкі, вішні, чарэшні, ўсяго-б насадзіў, завёў-бы пітомнік, школку. А там набраў-бы хлопцаў з вёскі, вучыў-бы іх садаводзтву, дый не павучонаму, а пасвойскаму...

Я паглядзеў на яго.

— Так, так, — загарачыўся ён і ўся яго маленькая фігурка затраслася. Ён замахаў рукамі і чуць ня крычаў.

— Так, так, пасвойму, не павучонаму! Вучоныя аграномы вун што мне казалі. Вось, напрыклад, наконта гэтай яблынкі, — паказаў ён на яблынку, любоўна глянуўшы на яе, — вось казалі, што яна засохне, а тымчасам гляньце, ня толькі не засохла, а нават плады вось дае. А бачыце, што вучоныя,—вучоныя, толькі псуюць! — саўсім раскрычаўся Белашапка. — Вось вы гляньце навакола лес, дзіч — сосны, елкі, дубы, асіны, а што было-б, каб усё гэта былі яблынкі, ці грушкі? а? — пытліва глянуў ён на мяне. — Рай быў-бы, а? — пытаў ён далей.

— Ня рай, а нуда! — плюнуўшы сярдзіта адказаў раптам Ганчар.

— Як нуда? Сад! Яблынкі, грушкі — нуда?! — наваліўся на яго Белашапка і між імі завязалася гарачая спрэчка.

— Эх ты, шэры! — лаяў яго Белашапка. — Нуда! Дык горшай няма нуды, як сядзець сярод дзікага лесу! Эх ты, культуры ня ведаеш! — закончыў ён.

— А ну цябе, з культурай! — агрызнуўся Ганчар. — Я толькі ведаю, што лес для мяне лепш за тваю культуру і сад.

— Дзікі лес лепш за сад? Не, не браток! — ледзьве ня з бойкай палез на яго Белашапка. — Ды ведаеш ты, што Гасподзь Бог і Той сад садзіў, а? ведаеш, ведаеш? — наступаў на яго ён.

— А ну цябе! — адкінуўся ад яго Ганчар, — патвойму сад — рай, а памойму — лес. Ну, дык і застанемся кожны пры сабе, — закончыў ён.

Але разыйшоўшыся Белашапка ўсё стараўся даказаць сваё і, каб мацней укалоць Ганчара, хрыпатым фальцэтам, глянуўшы на мяне, сказаў:

— Вось, далібог, заўтра, заўтра раніцай пачну лес секчы! вось пабачыш!

Пры гэтых словах Ганчар ускочыў, выпрастаўся і, б'ючы сябе кулаком у грудзі, грозна сказаў:

— Слухай, Белашапка! Калі ты хоць на хвілю зьявішся з сякерай у лесе, дык глядзі — наракай на сябе, я мазы не даю. Дый і саду твайму тады не здабраваць! — дадаў ён.

— Ага! — запішчаў Белашапка здаволены, што праняў такі Ганчара, і зарагатаў.

А Ганчар стаяў, насупіўшы вочы, і грозна паглядаў на рагатаўшага Белашапку.

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

ня 1919 году па заняцьці бальшавікамі Менску, пакіненага нямецкаю окупацыяй у пачатку сьнежня 1918 году. Абвешчаньне незалежнасьці Беларусі бальшавікамі ў 1919 годзе было зроблена толькі з чыста агітацыйнаю мэтаю, каб процістаць дэмократычнаму (пабальшавіцку) „беламу" беларускаму ўраду, абвясьціўшаму незалежную Беларускую Народную Рэспубліку 25 сакавіка 1918 году пад окупацыяй немцаў. Да заняцьця Менску польскімі войскамі ў канцы лета 1919 году, як сама сталіца Беларусі, так і ўся Беларуская Рэспубліка, ня меўшая ніякіх акрэсьленых граніц, абсолютна нічым ня розьнілася ад звычайнае савецкае провінцыі. Па ўсіх „дзяржаўных" установах панавала амаль што выняткова адна расейская мова, хаця бальшавікамі і быў выданы тады-ж у 1919 г. дэкрэт аб роўнапраўі ўсіх **чатырох** „мясцовых" моваў: беларускай, расейскай, польскай і жыдоўскай.

Толькі цяпер бальшавікі прыступілі да паступовае... беларусізацыі рэспублікі. Калі ўзяць пад увагу, што Менск заняты бальшавікамі нанова, пасьля палякоў, чатыры гады назад (у дзесятых чыслах ліпня 1920 году) дык трэба прызнаць, што беларусізацыя гэта вельмі ўжо марудная, тым болей, што для поўнага ўвядзеньня беларускае мовы ў дзяржаўныя установы апошні зьезд радаў даў яшчэ цэлыя тры гады сроку.

Украіна, ў некалькі разоў большая за Беларусь па тэрыторыі і ліку насяленьня, мае больш і самастойнасьці ў сэнсе нацыянальнага разьвіцьця. Навет і камуністы украінскія боруцца моцна за украінізацыю свае рэспублікі, стараючыся ўсюды завясьці украінскую мову.

Грузія, Арменія і Азэрбайджан былі паняволены бальшавікамі збройнаю сілаю і нанова прылучаны да быўшае Расеі. Іхняя незалежнасьць, абвешчаная ў 1918 годзе, істнавала вельмі нядоўга, бо толькі да 1920 году. Спачатку бальшавікі кожнаму з гэтых народаў далі фармальна назоў незалежных дзяржаваў, якімі кіравалі панасыланыя з Маскоўшчыны камуністы, а пасьля пастанавілі вясьці цэнтралізацыю дзяржавы і стварылі Закаўкаскую Фэдэрацыю з вышэйназваных 3-х рэспублік. Усе гэтыя народы, хаця й розныя па культуры, рэлігіі і традыцыях, ня любяць Маскалёў. І змушаныя сілай пакарыцца Маскоўшчыне, стараюцца, па меры магчымасьці, выкарыстаць сваё цяжкое палажэньне дзеля разьвіцьця ўласнае нацыянальнае культуры.

З боку палітычнага й эканамічнага ўсе тры рэспублікі — Беларусь, Украіна і Закаўказье — фактычна залежаць ад Маскоўшчыны (Р. С. Ф. С. Р.), зьяўляючыся яе провінцыямі альбо колёніямі.

### Агульна-дзяржаўныя ўлады.

С. С. Р. Р., будучы нібыта рэспубліканскаю дзяржаваю, ўсе свае ўлады будуе як быццам шляхам выбараў. Фактычна на пасады выбіраюцца тыя, каго загадае выбраць пануючая РКП. („Российская Коммунистическая Партия").

Найвышэйшаю дзяржаўнаю ўладаю Саюзу зьяўляецца Зьезд Радаў (Советов), які склікаецца пераважна адзін раз у год на некалькі дзён. Найвышэйшыя вураднікі — Народныя Камісары нібыта даюць на гэтым зьездзе справаздачу аб іхняй міністэрскай працы. Вельмі паважнае ролі аднакжа гэты зьезд ня грае; на ім звычайна бывае ад 70 да 90% камуністаў, а рэшта гэтак званыя беспартыйныя, тыя што спачуваюць бальшавіком, найчасьцей, ад страху перад тэрорам.

Гэткі зьезд выбірае 379 чалавек у гэтак званую Саюзную Раду, якая зьяўляецца часткаю „Центрального Исполнительного Комитета Советов" або ЦИК'у. Другая часьць гэтага ЦИК'у — гэта Рада Нацыянальнасьцяў, зложаная з прадстанікоў паасобных рэспублік, па 5 чалавек ад кожнае, альбо па 1 чал. ад аўтаномнага вокругу, гэта значыць ня толькі ад 4-х дзяржаваў, творачых Фэдэрацыю, але і ад усіх аўтономных провінцыяў Маскоўшчыны (Р. С. Ф. С. Р.). Склад Рады Нацыянальнасьцяў зацьвярджае Зьезд Радаў.

Рада Нацыянальнасьцяў нешта падобнае да другое парлямэнцкае палаты, устаноўлена была дзеля таго, што прадстаўнікі чужых Маскоўшчыне народаў, хоць і камуністы, протэставалі проці іхняе поўнае падуладнасьці Маскалём. Дзеля таго, што партыйная дысцыпліна вельмі вялікая, дык мусілі яны пагадзіцца са сваім лёсам. Для праформы створана гэтая Рада Нацыянальнасьцяў, але зложана яна так, што Беларусь і Украіна маюць ў ёй па 5 сваіх прадстаўнікоў, а Маскоўшчына больш як 70, — Закаўказье (3 рэспублікі)—15. Гэткім чынам маскалі - камуністы забясьпечылі сябе ад сваіх таварышоў не - маскалёў.

Абедзьве Рады—Саюзная і Нацыянальная,—складаюць Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, як-бы падобны да двухпалатнага парлямэнту. Але таму, што шырокае разважаньне над публічна-дзяржаўнымі справамі навет і ў гэткім пэўным, уласным кругу, не зьяўляецца для бальшавікоў пажаданым, дык ЦИК зьбіраецца на паседжаньні рэдка калі, а заўсёдна працуе толькі яго Прэзыдыум, зложаны з 21 асобы, што і ёсьць як бы „парлямэнтам" быўш. Расеі. Прэзэс ЦИК'у зьяўляецца як-бы прэзыдэнтам рэспублікі, але прэзэсаў гэтых аж 4 (па аднаму ад Беларусі, Маскоўшчыны, Украіны і Закаўказья).

Урад мае назоў „Совет Народных Комиссаров" (Совнарком); гэта—нешта падобнае да Рады Міністраў. Гэты ўрад ўсяго Саюзу С. Р. Р. абнімае толькі агульныя справы Саюзу, якімі зьяўляюцца справы: заграні́чныя, ваенныя і марскія, камунікацыйныя, паштова-тэлеграфныя, заграні́чнага і ўнутранага гандлю, харчовыя, фінансавыя, эканамічныя (прамысловасьць), працы і кантролю.

### Аўтаномныя ўлады.

Аўтаномныя Рады Народных Камісараў і ЦИК,і—Беларусі, Украіны й Закаўкаскіх рэспублік кіруюць у сябе толькі справамі: прасьветы, аховы здароўя, земляробства, справядлівасьці і ўнутранага парадку. Хаця, праўду кажучы, ўва ўнутраных справах аўтаномныя ўлады займаюцца толькі самаю драбязою, бо сапраўды гэтыя справы знаходзяцца ў руках провінцыяльных аддзелаў ГПУ („Государственное Политическое Управление"), якое поўніць функцыі дзяржаўнае агульнасаюзнае жандармэрыі, маючы кіраўнічы свой цэнтр у Маскве.

Найбольш самастойнасьці Цэнтральны Урад даў „незалежным" рэспублікам у сэнсе прасьветы і грамадзкае апекі, але таму што адабраў ад іх усе фінансавыя справы, ня даўшы ім права самастойна накладаць падаткі, дык і ў гэтых галінах жыцьця няшмат яны могуць зрабіць.

Што датычыць нацыянальнасьці народных камісараў Украінскае або Беларускае Радавае Рэспублікі, дык не заўсёды тут кіруюць украінцы альбо беларусы, бо ўсё залежыць ад „Расейскае Камуністычнае Партыі" — каго яна хоча, таго й назначае. А дзеля гэтага апі ня дзіва, што бывалі часы, калі Украінаю кіраваў румын Ракоўскі, а Беларусьсю армянін Мясьнікоў (праўдзівае прозьвішча Мясьнікьянц).

# Жыцьцё провінцыі.

### Папярэджаньне бандыцкага нападу.

У мінулую суботу каля Крывічоў, Вялейскага павету быў затрыманы падазронны чалавек са стрэльбаю, які, як выясьнілася пасьля, завецца Язэпам Шэжэпоўскім і апошнім часам жыў у Радавай Расеі. Шэжэпоўскі прызнаўся, што быў высланы бандаю на разьведку, і што банда, ў ліку 15—20 чалавек, знаходзіцца ў суседнім лесе. З далейшых паказаньняў бандыта выясьнілася, што ён муштраваўся ў спэцыяльных школах у Менску і Барысаве, адкуль быў высланы з бандыцкаю групаю. Аддзел паліцыі, скіраваўшыся ў названы бандытам лес, знайшоў там 5-цёх азброеных бандытаў, належачых да вышэйсказанае банды, якія прызналіся, што рыхтавалі напад на Курэнец, Вялейскага пав.

# Тутэйшая хроніка.

— **Цыркуляр Дэлегата Ураду.** Аддзел Публічнае бясьпечнасьці выдаў цыркуляр да старастаў, Камісара ўраду на м. Вільню і ўсяе паліцыі Віленшчыны аб адносінах паліцыі і адміністрацыі да насяленьня. Заяўляючы, што паліцыя ня мае даверыя з боку насяленьня і перш за ўсё з боку сялян, цыркуляр прызнае патрэбнасьць здабыць гэтае даверые. Цыркуляр строга загадвае вышэйшым паліцэйскім вураднікам сачыць за падуладнымі ім ніжэйшымі, каб яны добра абходзіліся з насяленьнем, заслужваючы гэтым яго даверые, бязьлітасна звальняючы тых, якія ў адносінах да насяленьня захоўваюцца нягодна.

— **Зьезд Старастаў.** 11-га жніўня ў Дэлегатуры пры зачыненых дзьвярах пачаўся зьезд старастаў Віленшчыны, які займаецца справаю абпільнаваньні граніцы.

— **Ведамасьці аб рэпатрыянтах.** Міністэрства Унутраных Справаў абвясьціла, што ўсе ведамасьці аб прыбыўшых да 1-га ліпня с. г. рэпатрыянтах дае галоўны эміграцыйны ўрад, а аб асобах, прыбыўшых пасьля 1-га ліпня, ведамасьці дае Міністэрства Унутраных Справаў.

— **Цана золата.** У № 189 „Monit. Polsk." апублікована распараджэньне Міністра Скарбу, якое устанаўляе цану 1 грама чыстага золата ў 3 злотыя 43 грошы.

— **Ашуканства.** Юзэфа Клепа (Ігнатаўскія казармы) купіла ў нейкіх трох жанчын *фальшывыя* брыльянты, якія зьяўляюцца простым шклом. Пацярпеўшая ацэньвае страту ў 150 злотых.

— **Пажар.** У мінулы панядзелак на гарэлачным бровары „Echo" (Паплаўская вул. 31) загарэлася бочка сьпірту. Агонь хутка пашырыўся па бровары. Падчас пажару лопнула шкло, кавалкамі якога ранены рабочыя Браніслаў Здановіч і Хана Сэгаль.

Пажарнай камандзе ўдалося спыніць пажар. Страты яшчэ ня выясьнены.

— **Субсыдыі для жыдоўскіх школаў.** У Магістраце паўстаў проект зьмяніць істнуючую сыстэму пры выдачы субсыдыі для жыдоўскіх школаў. Проектуецца зьмяншэньне субсыдыі альбо навет і поўная адмова ў ёй. Аканчальна гэта вырашыць Гарадзкая Рада.

— **Зладзейка-служанка.** Паліцыя арыштавала служанку Караліну Мікулевіч (Нікадзімская вул. 6), якая ўкрала рэчы ў Каетана Зайца.

## Навіны у тры радкі.

— У Токіо (сталіца Японіі) завалілася 2000 дамоў. Страшэнны тайфун зьнішчыў у Нагасакі чугунку, тэлеграф і тэлефон.

— У Нэаполь прыбыў першы ваенны савецкі крэйсэр „Воровский", які належыць да Чарнаморскага флёту.

— У Турэцкай провінцыі Фэргане адбылося моцнае землятрасеньне. Больш як 40 чалавек загінула. Больш як 3.000 дамоў зруйнована, а 1200 папсована.

— Парыская газэта „Le Matin" піша, што Варшава ў сэнсе дарагоўлі жыцьця стаіць на першым месцы ўва ўсёй Эўропе. У Лёндане жыцьцё таньнейшае ў два разы, як у Варшаве.

— У штаце Тэнанс (Амэрыка) узарвана фабрыка амуніцыі. Шкоды на 20 мільёнаў даляраў.

— У Вене адбылася маніфэстацыя проці вайны, зробленая конгрэсам эспэрантыстых.

— У Румыніі зроблены напад на поезд паміж Галацам і Марасэтті. Аграблена пошта й пасажыры.

## Паштовая скрынка.

**А. В.** Карэспандэнцыю надрукуем. Расказ таксама пайдзе, але крыху пачакаўшы.



Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.